

Шчаслівa i бадзёра, весела і радасна, моцна згуртаваныя вакол ВКП(б) і свайго любімага правадыра—вялікага СТАЛІНА сустракаюць народы Савецкага Саюза стаханаўскае Першае мая



*„...Поспехі сапраўды ў нас велізарныя... Калі па-чалавецку сказаць, так хочацца жыць і жыць. На самой справе, паглядзіце, што робіцца, — гэта - ж факт.“*

(С. М. КІРАЎ)




*Братам па класу,*

*афярам фашысцкага тэрору,*

*вязням капіталізма*

*ў дзень 1 мая—*

*наша пролетарскае прывітанне!*

# Працаваць па-стаханаўску



Дырэктар завода т. Драбышэўскі



Сакратар парткома т. Шамес

Першае мая 1936 года завод сустракае новымі поспехамі ў разгортванні стаханаўскага руху і пераходу ў маі на стаханаўскі год работы.

Да Першага мая намі асвоен і пушчан новы круглапільны варштат, які з'яўляецца новым укладам у нашу соцыялістычную гаспадарку.

Круглапільны варштат, гайканарэзны, працяжны, нажовачны і цэнтравальны — гэта варштаты, асвоеныя стаханаўцамі завода і ператварыўшыя завод з невялікага завода, выпускаўшага нескладаныя машыны, у перадавы варштатабудаўнічы завод.

Пад кіраўніцтвам партыі і вялікага правадыра т. СТАЛІНА разам з ростам індустрыялізацыі нашай неабсяжнай краіны рос і наш завод. Ад ручнога свярпільнага варштата ў 1929 годзе, камнедрабілак, солададрабілак, бетонных варштатаў у 1930—1932 г. мы прыступілі ў канцы 1933 г. да асваення і выпуску варштатаў, якія раней прывозіліся з Германіі. Пры непасрэднай дапамозе партыйнай арганізацыі задача асваення гэтых складаных варштатаў намі была выканана з гонарам. Рабочы калектыў, лепшыя стаханаўцы тт. БАЙДАК, ГАЛАЎНЯ, ЛАПІН Н., ОКСЕНКРУГ, ПОЗНЯК і др., з уласцівым кіраўцам большэвіцкім напорам хутка асвоілі тэхніку і зараз выпускаюць варштаты высокай якасці.

Лепшыя стаханаўцы завода ўпарта вядуць барацьбу за дасягненне яшчэ большых паказальнікаў высокапрадукцыйнай работы і якасных варштатаў. Так, слесар Шыдлоўскі працуе над перарэканструкцыяй нажоўкі; стаханавец-комсамолец Оксенкруг, вырасшы разам з заводам, на працягу 3-х месяцаў дэталь за дэталлю асвойваў новы варштат і да Першага мая з гонарам выканаў ускладзенае на яго заданне, забяспечыўшы магчымасць пераходу на серыйны выпуск круглапільных варштатаў.

1936 год з'яўляецца для нашага завода годам далейшага росту і значнага павелічэння прадукцыі. План завода на гэты год у сумарным выражэнні 6.984,3 тыс. значна перавыконваецца. Так, за першы квартал план выканан на 120,3 проц., выпушчана прадукцыі на 2.095,5 тыс. руб.; такім чынам, прадукцыйнасць працы павышана на 18,6 проц. да плана.

Поспехі, дасягнутыя заводам, з'яўляюцца вынікам большэвіцкай работы ўсяго рабочага калектыва пад кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі і з усёй відавочнасцю паказваюць, што стаханаўцы завода прыкладуць усе сілы да таго, каб, замацоўваючы маючыяся поспехі, поўнасцю выканаць стаячыя перад заводам грандыёзныя задачы і поўнасцю выправіць маючыяся яшчэ недахопы.

Перад заводам пастаўлены грандыёзныя задачы асваення ў гэтым годзе другога тыпу круглапільнага варштата, пераводу працяжнога варштата на гідраўлічную падачу і асабліва значнага павышэння якасці выпускаемай прадукцыі. Трэба адзначыць, што ў пытаннях якасці мы яшчэ значна адстаем і тут неабходна весці ўпартую і рашучую работу па зніжэнню браку і выпуску выключна высокаякасных варштатаў.

За першы квартал процант браку значна перакрывае дапускаемую планам норму, у сакавіку месяцы процант браку ўзрос у адносінах да студзеня і лютага. Так, у механічным цэху дапускаемы процант браку 0,4 проц., у студзені састаўляў 0,78 проц., у лютым 0,87 проц., а ў сакавіку 1,18 проц., што, безумоўна, патрабуе ўдзяліць гэтаму ўчастку асаблівую ўвагу.

Асноўнай чарговай задачай з'яўляецца асваенне новых норм выпрацоўкі, зацверджаных галіннай канферэнцыяй і перавыкананнем іх.

Выкананне гэтых задач неразрыўна звязана з задачай, пастаўленай снежаньскім пленумам ЦК ВКП(б) і далейшай тэхнічнай вучобай рабочых. Гэты ўчастак з'яўляецца неад'емнай часткай усёй нашай работы і кожны майстар, брыгадзір, рабочы павінен сістэматычна і настойліва вучыцца, асвойваць новую тэхніку, каб выканаць задачу падцягвання свайго тэхнічнага ўзроўню пад узровень інжынерна-тэхнічных работнікаў.

Адзначаючы ўсе гэтыя задачы, неабходна з асаблівай сілай завастрыць пытанне ў барацьбе за культурны цэх, культурнае рабочае месца. Нашы начальнікі цэхаў маюць усе магчымасці стварыць культурныя ўмовы работы. Аднак дрэнна абстаіць справа ў ліцейным цэху (КОПАЧ), аддзеле механіка (СПЕВАК), не ўсё добра і ў новым механічным цэху. У гэтых ал[illegible]нах трэба адзначыць тав. Міндэля, які звярачае асаблівую ўвагу на свой цэх і ў якога цэх у належнай чыстаце.

Сустракаючы Першае мая гэтага года з вытворчымі дасягненнямі, завод мае рад дасягненняў і ў росце стаханаўцаў, вырошчванні самага каштоўнага капітала, вырошчванні кадраў. Новыя майстры, брыгадзіры, стаханаўцы ВАСІЛЕЎСКІ, СІЎЧУК, БІРУК, ГІМЕЛЬШТЭЙН, ЦЫВЕС, дзесяткі другіх з'яўляюцца лепшым залогам выканання плана 1936 года, асваення новых норм і стаханаўскай работы ў 1936 годзе.

Дырэктар завода

ДРАБЫШЭЎСКІ.

# Наш ЗАВОД



Працяжны варштат



Бібліятэка



КІРАВЕЦ



Нажоўкі «Орион Гакко»



Цэнтравальны варштат



Стахановец т. ВАСІЛЕЎСКІ (справа) займаецца з настаўнікам дома.






Работа ў процігазах



Інструктар-планерыст т. ГАЛЬПЕРЫН і заводскі планер.

# НАШ ЗАВОД

Некалькі год таму назад на месцы варштатабудаўнічага завада імя Кірава існаваў невялічкі металаапрацоўчы заводзік. Зараз наш завод з'яўляецца адным з буйнейшых металаапрацоўчых заводаў БССР. Асвойваецца выпуск новых варштатаў, якія да апошняга часу імпартаваліся з-за мяжы. Пабудован новы механічны цэх. Значна павялічылася колькасц рабочых. Разам з рэканструкцыяй завода будаваліся і іншыя невытворчыя цэхі завода. Пабудавана новая сталоўка, адчынена рабочае кафэ, больш тысячы кніг налічвае заводская бібліятэка. Медпункт завода ператварыўся ў добра абсталяваную апошнімі медыцынскімі прыборамі амбулаторыю. Вечарамі стаханаўцы завода займаюцца ў тэхнічных гуртках. Дома з лепшымі стаханаўцамі займаюцца настаўнікі. Добра працуюць планерны і стралковы гурткі, дзе рабочыя вывучаюць абаронную справу.

Варштатабудаўнічы завод імя Кірава з гонарам носіць слаўнае імя правадыра ленінградскіх бальшавікоў.



Варашылаўскі стралок т. ГРЫБ

# Песня кировцев

На мотив: «Все выше и выше»...

Былые дни, овеянные славой,
Встают, идут памятной тропой;
Был здесь пустырь, заросший лебедою,
Из'ятой прочь ударника рукой.
**Припев:** Сталин, великий, родимый,
Ты кировцев знамя в бою,
Храним мы завет нерушимый —
«Стахановцем быть в строю».
Был взят завод рабочими руками,
Советам стал служить тут каждый гвоздь,
Стали сами мы хозяевами
Распоряжаться начал сам народ.
**Припев.**
Завод затем назвали «Коммунаром»,
В честь славных дней, когда в зареве огней
Рабочий штык штурмующим напором
Очистил край от польских палачей.
**Припев.**
Черед настал, блеснула пятилетка
Огнем призыва ленинским полна:
И вместо ветхих, темных, старых клеток
Начертан план — построить корпуса.
**Припев.**
Минули дни, прекраснозвучной сказки
Итог подведен, и готов подсчет —
Буйным цветом яркой пятилетки
Разросся сад — вырос наш завод.
**Припев.**
Шли дни быстрее тонконогой лани,
А темпы наши шли еще быстрей...
Но вдруг страну окутал черный траур:
То Киров пал, товарищ боевой.
**Припев.**
Проклятье шлем презренным негодяям,
Шпионам гадким, троцкистским псам.
Твой гордый лик, Киров наш, вписан
В груди и сердце каждого из нас.
**Припев.**
«Киров» наш, завод станкостроенья,
Званье гордое получив,
Хранит заветы твердо боевые
Киров умер, но в нашем сердце жив.
**Припев.**
Спасибо шлем тебе, Иосиф Сталин,
Вождю, творцу и мастеру всех благ,
Клянемся мы Великим Первым Маем:
Держать высоко кировский наш стяг!
**Припев.**





# Мастацкая самадзейнасць

Гудок. Працоўны дзень акончан, але многія рабочыя застаюцца на заводзе. Пачынаюць працаваць гурткі мастацкай самадзейнасці.

Пры рэдакцыі шматтыражкі «Кіравец» існуе фотогурток. Маладыя паэты і празаікі займаюцца ў літаратурным гуртку. З залы даносяцца словы вясёлай песні — заводскі хор прыступіў да заняткаў. Знізу чутны гукі марша з фільма «Вясёлыя рэбята» — гэта рэпетыруецца джаз. У выхадны дзень зала запаўняецца добра адзетымі хлапцамі і дзяўчатамі — яны вучацца танцаваць.

Так весела і радасна праводзяць свой вольны час рабочыя і работніцы завода імя Кірава.







Т. Сотнікаў (інжынер)

# Здадзен апошні вінцелятар



т. Кітайчык.

*Завод імя Кірава атрымаў заданне ЦК КП(б)Б выканаць у самы хуткі тэрмін заказ для заводаў па вырабу цэглы—12 вінцелятараў. Канчатковы тэрмін устаноўлены 20 красавіка г.г.*

*Лепшыя стаханаўцы завода з брыгады т. Гуліса выканалі гэтае заданне. Лепшыя людзі завода абяцалі выканаць заказ у тэрмін і выканалі. 19 красавіка быў здан апошні вінцелятар.*

*Кіраўцы яшчэ раз даказалі, што ўсе патрабаванні партыі і урада яны ганарова выконваюць*



Т. Міліцкі (член ЦВК БССР)



Т. Грышко



Т. Мацкевіч.



Т. Грынглоз



ВІНЦЕЛЯТАР.



Т. Рубенчык



т. Лотарзвіч (майстар)

# Шчаслівыя дзеці — шчаслівай краіны



На рагу Акольнай і Першамайскай вуліц размешчан невялікі драўляны домік. Тут з раніцы да вечара пяцьдзесят маладых грамадзян ва ўзросце ад 4 да 6 год—дзяцей рабочых завода імя Кірава—праводзяць увесь свой «Рабочы дзень».

Усе жыхары гэтага дома разбіты на дзве групы—старэйшую і малодшую.

Пры ўваходзе ў першы пакой можна ўбачыць невялікую дошчачку, якая ўтыркана цвікамі. Пад цвікамі размешчаны розныя значкі. Кожны чатырохгадовы наведвальнік дзіцячага саду запамінае свой значок і кожны раз вешае паліто і шапку толькі на свой цвік.

У другім куту знаходзіцца вялікая драўляная клетка, якая падзелена перагародкамі на рад маленькіх аддзяленняў. Гэта «заалагічны сад». У кожнай такой клетцы знаходзіцца прадстаўнік жывёльнага свету. Ля ўваходу «заалагічны сад» заўсёды стаіць дзяжурны грузавік. Часта шасцігадовы дырэктар зоасада нагружае даверху грузавік «львамі», «малпамі» і другімі жывёламі і перавозіць іх у другі пакой, дзе маленькія мастакі, падрыхтаваўшы карандашы і рэзінкі, малююць з натуры звяроў.

Ля акна знаходзіцца біблятэка. Тут-жа тэлефон-аўтамат. Праўда, тэлефон не сапраўдны, але маленькіх абанентаў гэта не турбуе,—яны пры дапамозе яго могуць гутарыць і з мухай-цакатухай, і са Сцёпкай растропкай, і нават з амерыканскім містэрам Твістэрам.

Адчыніўшы дзверы, пападаеш у наступнае аддзяленне. Тут малодшая група. У цэнтры пакоя стаіць аўтобус, зроблены з ... стулляў. Маленькі віхрасты хлапчук сядзіць замест шофера. За яго спіной дзве маленькія дзяўчынкі, седзячы ў якасці пасажырак, патрабуюць ад яго, каб ён хутчэй ехаў. Але шофер іх просьбу выканаць не можа, таму што другі хлапчук, ператварыўшыся ў міліцыянера, без усякай прычыны спыніў вулічны рух.

Чатырохгадовы Міша заняты вельмі сур'ёзнай справай: ён ловіць рыбу. Праўда, рыбкі зроблены з паперы і замест возера—акварыум, але Мішу гэта не турбуе, ён сёння паспеўналавіць каля дзюжыны рыбак і гэтым зусім задаволены.

Штодзенна з 7 гадз. раніцы дзіцячы сад запаўняецца дзецьмі. Пасля першага снедання дзеці гуляюць і забаўляюцца. Затым старэйшая група прыступае да заняткаў. Вучацца чытаць, лічыць, малююць і развучваюць песні. Пасля гульні на свежым паветры абед і «мертвая гадзіна». «Рабочы дзень» юных грамадзян так ушчыльнены, што ім не застаецца часу сumаваць. Яны не толькі весела і цікава праводзяць свой дзень, але і вучацца.

Краіна, у якой жывуць гэтыя дзеці, прадаставіла ім усе магчымасці жыць радасным і вясёлым жыццём. Будучыя будаўнікі новага комуністычнага грамадства жывуць радасна і весела. Яны мараць стаць такімі-ж, як нашы героі-лётчыкі, як іх бацькі і маткі—стаханаўцы, як уся наша радзіма і іх мары ажыццявімы.

**Н. А.**







Маленькая «гаспадыня» Ларачка Гурвіч вельмі заклапочана. Зараз скончыцца рабочы дзень, і ўся «сям'я» пасля прагулкі прыдзе абедаць. Яна распараджаецца, рыхтуе ўсё да абеда.

Яе карыя вочкі блішчаць ад радасці, што сёння яна дзяжурыць. Галя Гарошкіна і Зоя Толстая ёй дапамагаюць. Лара Гурвіч раскладвае лыжкі, нажы, расстаўляе талеркі і лічыць: — гэта Вове, Лёне...

Жыхары дзіцячага саду жывуць поўным жыццём, рознабаковым і надзвычай цікавым. «У нас ёсць парашуты, тэлефоны, чырвоныя санітары, шмат будаўнічага матэрыялу» — расказвае Шура Лаўрусевіч. «Калі я стану дарослым— палячу на парашуце з самалёта. Я не буду баяцца». «Я хачу стаць інжынерам, будаваць самалёт», — гаворыць другі. Стаць лётчыкам, парашутыстам, стаханаўцам, інжынерам, — быць такім, як Варашылаў, Будзённы — вось мары нашых дзяцей.

Аля Гурвіч расказвае, як прыняў групу дзяцей дзіцячага саду старшыня ЦВК БССР тав. Чарвякоў.

— Дзядзя Чарвякоў даў нам падарункі — кніжкі, цукеркі; нас сфатаграфавалі, аб нас пісалі ў газетах.

Зараз дзеці рыхтуюць сваім бацькам сюрпрыз да 1 мая — выступленне старэйшай і малодшай груп (інтэрнацыянальная інсцэніроўка, танцы, спевы і т. д.). Дзіцячы сад таксама рыхтуе сюрпрыз для дзяцей — падарункі.

**В. ШНОЛЬ.**



# Адзін дзень







Казімір **Галаўня** — лепшы стаханавец завода імя Кірава. Свой звычайны стаханаўскі дзень т. **Галаўня** пачынае ранняй раніцой. Устаўшы і зрабіўшы ранішнюю зарадку, ён адпраўляецца на завод. Роўна ў 8 гадзін раніцы ён стаіць ужо ля свайго варштата.



Пачынаецца рабочы дзень, дзе кожны рух, кожная аперацыя точна разлічаны і зведзены да мінімуму. Гудок. 4 гадзіны — першая змена канчае работу. Стаханавец Галаўня на ўласным веласіпедзе едзе дахаты.



# стаханаўца т. Галаўні





Дома ён перш за ўсё праглядае газеты. Потым жонка прыбірае стол, і ўсе прыступаюць да абеду. За абедзеным сталом сядзіць уся сям'я — ён, жонка, 6-гадовы сын Ромка і трохгадовая дачка Галька.

Пасля абеду Ромік узбіраецца вярхом на цацачнага каня і, ўзяўшы ў рукі гармошку, грае паходны марш. Маленькая Галька больш усяго любіць сваю ляльку, а сам бацька, прысеўшы на падлогу забаўляецца з дзецьмі. Калі і гэта надакучыць, уключаецца лямпавы радыёпрыёмнік. Казімір — стары радыёаматар і гэты прыёмнік — яго апошняя навінка. Маленькі «радыёзаяц» Ромка з цікавасцю сочыць, як яго бацька настрайвае прыёмнік.

Увечары Казімір з жонкай, пераапрануўшыся ў новыя касцюмы ідуць у Беларускі дзяржаўны тэатр глядзець новую п'есу—«Як яе завуць».

Стахановцу г. Талицы



# Сталин

Темной ночкой солнце нам не светит

Ранним утром не блестит звезда,
Но ведь вечно, вечно светит пламя
Вечно греют Сталина слова.

Сапоги его совсем простые
И шинель из нашего сукна;
Но слова, слова—вы все родные

Слышны хорошо издалека.
Жить нам стало лучше, веселее,
Слышны с трибуны нам слова:

— Пусть живет любимый, славный Сталин,
Пусть горит пятиконечная звезда.

МЕЕРОВИЧ.

ученица 2-й школы.

# Узнагароджаныя граматамі ЦВК БССР за лепшыя паказальнікі працы


Т. ДРАБЫШЭЎСКІ


Т. ГОМЕЛЬСКАЯ


т. ВОСІК.

# РАДАСНА СУСТРАКАЮ ПЕРШАМАЙ


Т. БАЙДАК.

Слесару зборачнага цэха тав. Байдаку 45 год. Аднак ён поўны жыцця і бадзёрасці. Ён жвава варочаецца каля сваіх цiскоў, з напільнікам у руках, нібы дырыжэр аркестра, і задае тон усяму цэху.

Гэты знатны чалавек вядомы не толькі рабочым нашага завода, яго ведаюць многія рабочыя другіх заводаў, ведаюць і кіраўнікі ўрада БССР. Ды і як не ведаць слесара Байдака, хіба-ж яго прозвішча першы раз друкуецца ў газетах, яго прозвішча, фатаграфіі, паказальнікі работы заўсёды займаюць пачэснае месца на старонках газет, на заводскай дошцы гонару. Байдак не малады рабочы, ён мае 32 гады вытворчага стажу, яму прыходзілася працаваць яшчэ на капіталістычных прадпрыемствах.

— Там я быў прыгнечаным, — гаворыць Байдак, — атрымліваў мізэрныя грашы за сваю працу, ніхто аба мне не клапаціўся. Толькі савецкая ўлада і комуністычная партыя могуць так клапаціцца аб кожным рабочым і калгасніку, могуць акружаць іх любоўю, расціць як садоўнік вырошчвае аблюбаванае ім дрэва. Байдак, які штодзенна адчувае клопаты аб сабе, узнімаецца з ступенькі на ступеньку ўсё вышэй і вышэй. У першай пяцігодцы Байдак атрымаў ганаровую назву героя першай пяцігодкі. За добрую работу яго прэміравалі 7 разоў каштоўнымі падарункамі і ганаровай граматай ударніка. У другой пяцігодцы Байдак першым на заводзе асвоіў нямецкую нажоўку, ён першы стаханавец зборачнага цэха і першы паказаў лічбу 330 проц. выканання плана.

Намнога палепшыліся матэрыяльна-бытавыя і культурныя ўмовы стаханаўца Байдака. Сярэдняя зарплата яго — 800 — 950 р. у месяц. Ён жыве з поўным дастаткам. Зойдзеш да яго на кватэру — проста душа радуецца. чыста, утульна, ёсць дзе культурна адпачыць, газету і кніжку пачытаць. Звычайна так і робіць Байдак: вечарам пасля работы чытае газеты, кніжкі; жонка яго надзвычай любіць мастацкую літаратуру, яна чытае творы Пушкіна «Капітанскую дачку», «Дубровский», да гэтага прачытала шмат іншай літаратуры. Кіно наведвае 2 разы ў шасцідзнеўку. Сустрэну, кажа т. Байдак, міжнароднае свята з добрымі паказальнікамі на заводзе, радасна, весела і заможна —дома.

ГОЛУШКА.

*МІКОЛА КУРЫШКІН*

# Першамайскае

Сонца пякуча
Кідае праменні,
Ніжыць узоры
Роснага рання.
Сёння бадзёрае
Свята сустрэнем,
Свята прыгожае —
Першае Мая.

Мы ўпрыгожым —
Сцягамі калоны,
Выйдуць наперад
Майстры-змагары.
З цокамі пройдуць
«Сталёвыя» коні,
І «птушкі» вітаюць
Май у гары.

Рух гэты, песні —
Зрытмуюць шветра,
Не страшны ніякі
Нам вораг.

Сваё мы баронім,
І кожны наш метр
Вольнай зямлі
Загартаванай дораг.

*МІКОЛА КУРЫШКІН*

# ГІМН ПЕРАМОГІ

Адышлі ў даль здзекі і прыгоны,
Прамільгнулі дні, што ў небе
шэраг хмар, —
Сёння я трымаю моцна сцяг
чырвоны,
Дзе яшчэ не змыта кроў былых
афяр.
Клалі нас без жалю каты ў
дамавіну.
Не даваў жыцця нам
крывасмока-спрут...
Палюбіў бясконца я сваю
краіну
Што з руін былога збудавала
цуд.
Толькі успаміны нібы у той
казцы,
Спраўдзіліся мары, — дакананы
вораг!
Нашаму жыццю будаваў ён
пасткі.
Сам-жа спапялеў у нашых
светлых зорах.
Сёння ва ўсім свеце чуцен
адгалосак:
Ходзіць постаць здані тых былых
падзей,
Вам труну майструе і труну без
дошак
Сусветны надыходзіць здзекам
помсты дзень.



*КРЕМЕНЕВСКИЙ*




Мне снился сон чудесный
И радость всколыхнулася во
мне:
Как будто ты стоишь в дозоре
На пограничной полосе.



И видел я — прыжки из са-
молета
И твой прелестный парашют,
И видел я, как «Знак почета»
Тебе повесили на грудь.

И путь счастливый — наш с
тобою
Его не пересечь ничем;
Тебя я видел с шумною толпою
Ты шла приветствовать X с'езд
ЛКСМ.

Но этот сон, — уж явью став
на деле,
Идет размашистой походкою
вперед,
И ты идешь бодро, смелее
Счастливою эпохою вперед.

# Вынікі упартай настойлівай працы

НАРЫС
Б. ГОЛЬМАНА



т. ГОЛЬМАН

У механічным цэху было трывожна. Масляны насос у нажовачным варштаце нямецкай фірмы «Орион Гакко» не паддаецца асваенню. Карусельна круцяцца графікі плана выпуску варштатаў і ні адзін варштат не можа быць выпушчаны. Панура стаіць насо?. Яго абыходзяць з усіх бакоў. Людзі таўкуцца каля яго, аглядаюць, мацаюць рукамі.

Бягуць думкі, аўтаматычна паўстаюць і знікаюць у галаве формулы тэорыі і практыкі. Яго на розныя лады прабуюць прымусіць роўнамерна пульсаваць, але нічога не дапамагае. Вось заіскрыцца ў ім іскра і зноў тухне.

Невысокага росту, крыху сутулаваты, з невялікай проседдзю на галаве Аляксандр Вікенцевіч прыняў прапанову перайсці на зборку і асваенне насоса з затоенай радасцю. Ці таму, што на заводзе шмат гаварылі аб насосе, ці таму, што з яго ростам і развіццём расла і развівалася ў ім цяга да новага, невядомага. Абуздаць неабузданае, прымусіць падначаліцца непадначальваючаяся. Але для яго з першага погляду стала яскрава: сэрца нажоўкі можа і павінна працаваць.

— Ёсць кантакт?

— Ёсць кантакт: — паўтарыў сабе Аляксандр Вікенцевіч і пацяклі думкі па каналах, па клетачках, адстараняючы і выцясняючы адна другую.

Часам-жа паток застанаўліваўся, заваёўваючы сабе права, адбіваючы апетыт да ежы, жаданне да сну, работы. Але шырока адкрыты шлюз даваў новыя прытокі, і старыя выцясняліся. Невялікая клетачка пад назвай «абабшчаюся» фільтравала патокі, адбіраючы сабе светлыя, крыштальна чыстыя. Яны ў сваю чаргу групаваліся, ачышчаліся і давалі напрамак спрытным рукам кіраваць інструментам, зоркім вачэм прыглядацца.

Як вопытны хірург ён аперавоў сваім інструментам. Не маючы магчымасці бачыць работу насоса знутры ў часе яго работы, ён заклікаў для дапамогі ўсю сваю багатую практыку. Параўноўваў, вымяраў і практыкаваў.

«Насос павінен працаваць!» — гаварыў ён сабе. Яго простыя формулы былі накіраваны на тое, каб знайсці правільнае распалажэнне адтулін і канавак у рэгулятары і корпусе насоса і калі яны былі ім адкрыты, — ажыў насос, ажыла нажоўка.

— Тое, што насос працуе — гэта яшчэ не ўсё, — гаварыў Аляксандр Вікенцевіч. — Яго трэба спросціць, палепшыць якасць яго работы. Дні, гадзіны, мінуты адпачынку ў Александра Вікенцевіча былі прысвечаны насосу. Думкі працавалі над адным пытаннем — паменш розных каналаў і праходаў. Выкінуць усё тое, што магчыма і адкрыць прамую чыстую дарогу для руху масла і работы насоса.

— «Нашто медная ўтулка для парадку адбою?»

Ён пачаў вывучаць яе прызначэнне, пераход масла і прышоў да вываду, што калі свярлоўку перанесці ва ўтулку скалок, гэта будзе спрыяць паляпшэнню работы. Ён рашыў выпрабаваць сваё тэарэтычнае абгрунтаванне і вопыт апраўдаўся.

Так Аляксандр Вікенцевіч жыве жыццём насоса, кожную гадзіну, мінуту прыглядаючыся, прыслухоўваючыся да яго работы, уносіў змяненні. Ён перамясціў трубку падачы масла з цыліндра ў рэгулятар. Потым змяніў медную рэгулятарную каробку на больш выгодную, замест поршанька паставіў стальныя шарыкі.

Апошні год Аляксандр Шыдлоўскі працаваў над перарэканструяваннем насоса.

— **Асаблівасці маёй канструкцыі**, — гаворыць т. Шыдлоўскі, — заключаюцца ў тым, што я знішчыў ніжнюю камеру пераходнага масла ў рэгулятары, знізіў клапанныя шарыкі і паставіў іх над рэгулятарнай утулкай знадворку. Гэтым я знішчыў трубкі для праходу масла. Я таксама зняў спружыневы клапан, чым спрасціў ліццё і свярлоўку дзірак.

Стаханавец на вытворчасці, глыбокі рацыяналізатар, Аляксандр Шыдлоўскі, актыўна ўключыўшыся ў стаханаўскі рух, зараз працуе над перарэканструяваннем нажовачнага варштага. Гэтымі днямі ён прыступіў да практычнай работы па выпрабаванню яго вынаходства, якое заключаецца ва ўстараненні ўсіх перадатачных шасцяронак, скалок, эксцэнтрыкаў з заменай гідраўлічным даўленнем — двума лапаснымі насосамі і перарэканструяваннем маслянага насоса.



т. ШЫДЛОЎСКІ

У Аляксандра Вікенцевіча Шыдлоўскага няма вызываючага гонару, што ён адзін з лепшых рацыяналізатараў завода. Ён ганарыцца толькі тым, што ён жыве ў такой шчаслівай краіне, дзе творчая думка знаходзіць сабе прастору, дапамогу і падтрымку ўсіх арганізацый завода.

# Вясёлыя радкі

## ШТО ТУТ ТАКОГА

**Аддзел снабжэння недастаткова клапоціцца аб забеспячэнні матэрыялам патрэбнага профілю і дыяметра. Падчас дэталі апрацоўваюцца з метала дыяметрам у два разы большым, чым патрабуецца, і ў выніку стружкі важаць больш за дэталь.**

**АСТРАХАН** (нач. снабж.): — Што-ж тут такога? Глупства, для роднага пакупніка не шкада, калі будзе крыху з пераходцам.

## „Бюро пахавання“

**Заводскім саветам вынаходства і рацыяналізацыі не прыняты заходы для папулярызацыі значэння рабочых прапаноў на заводзе. Прапановы падоўгу залежваюцца без перагляду, перагледжаныя падчас не рэалізуюцца і марынуюцца ў папках. Кіраўнікі савета не аддаюць належнай увагі справе разгортвання работы на ўзняцце творчай думкі рабочага і не жадаюць зразумець таго, што справа рацыяналізацыі — неадемлімая частка стаханаўскага руху.**



**СКРЫПКО** (старшыня совета вынаходцаў): — Завядзіце ўчот рабочым прапановам.

**ГОЛЬМАН:** — А іменна, тав. Скрыпко.

**СКРЫПКО:** — Іменна: колькі іх забракавана, колькі замарынавана і колькі зусім не разгледжана.

## БІБЛІЯТЭЧНАЕ

**У заводскай бібліятэцы кнігі знаходзяцца не ў адпаведным парадку, гэта дае магчымасць раскрадаць іх, а часцей псаваць, вырываць аркушы і т. д.**



**РАБОЧЫ:** — т. Чарняк, перамяніце мне кнігу, бо ў ёй не хапае старонак.

**ЧАРНЯК** (бібліятэкарша): — старонак тут хапае. Гэта скарочанае выданне.

## ЛЁГКІ ВЫХАД

**Па плану намечана ў сакавіку зрабіць пяць гайканаразных варштатаў, а зроблена толькі чатыры.**

**НАВАСЕЛЬСКІ** (заг. план. аддз.): — Чаму вы, тав. Галаўня, не выканалі задання па гайканаразных?

**ГАЛАЎНЯ** (майстар): — Трэба было, тав. Навасельскі, запланаваць менш, тады ў нас было-б перавыкананне.



— Чуў ты? Гэта-ж Максімаў, што ў аддзеле механіка працуе, гарэлку п'е, і п'яным на работу прыходзіць...

— На што брахаць не ведаючы. Ён гарэлкі не п'е, а хлебнае віно, а на завод п'яным не прыходзіць, а толькі выпіўшы.

## Эх...

Загадчыкі сталоўкі Сокалаў і Эйдэльман безадказна абыходзяцца з свіннямі. Свінні топяцца у брудзе, хварэюць, здыхаюць. Шыбы у свінарніку павыбіваныя, скразняк і бруд пагражае пагалоўнаму захворванню свіней.

Цікава было-б запытаць у гэткіх безнаглядных жывёлін думку аб Сокалаве і Эйдэльмане, яны мусіць нічога не адказалі-б і было-бы правільна. Ці варта ім расчыняць рот толькі для таго, каб прамовіць некалькі паганных слоў

# ЯК-НЕБУДЗЬ

**Куплены більярд знаходзіцца ў безнаглядным становішчы. Ім карыстаюцца нават людзі, прышоўшыя немаведама адкуль і не маючыя ніякіх адносін да завода; У выніку — паламаныя більярдныя кіі і недахват шароў.**



— Як-жа мне з табой гуляць у більярд, калі маецца толькі адзін кій?

— Вось які ты дзіўны. Мы-ж з табой таварышы, памірымся. Спачатку я ўдару, потым кій перадам табе — ударыш ты. Потым зноў я і т. д. А там глядзі, не пройдзе і пяці год, як зробяць новыя кіі. Не варта-ж з-за гэтага затрымліваць гульню.



— Чаму гэта, як толькі выступае наш джаз, удзельнікі яго больш крычаць, чым граюць.

— А бачыш, яны гэта наўмысля. Пад гэткі гвалт усё сыйдзе.

# Культура і культработа

Кажуць, на гэтых днях на заводзе адбудзецца даклад аб культрабоце. Дакладчыкам будзе выступаць хтосьці з заўкома.

Улічваючы склаўшыяся абставіны, некаторыя мяркуюць, што даклад будзе насіць, прыблізна, такі характар:

— Таварышы. Што-ж намі зроблена?.

Намі зроблена надта многа, але яшчэ не ўсё. Паглядзім навокал. Вы бачыце, што больш палову маючыхся стулляў зламана. Але ўсё-ж такі значны процант зламаных выкінулі. Фізгармонія, што стаіць у партпрофгабінеце, паабламвана і расстроена, на ёй рыпаюць усе, каму не лень. Плакаты і лозунгі, развешаныя яшчэ з мінулага года, захоўваюць свой знадворны выгляд, толькі крыху запыліліся і застарэў тэкст. Розны бруд і акуркі знойдзеце на кожным кроку. Гэта гаворыць аб тым, што ў нас кожны адчувае сябе свабодным і робіць як яму хочацца і што хочацца. Шкло ў вокнах на палову павыбіна. Праўда, мы-б маглі даўно ўжо дакончыць і астатнія,



але якімсьці чынам яны яшчэ захаваліся.

# Частушкі




Заспяваем-ка рэбяты,
Ўсім рабочым хорам
Пра дэфекты пра свае
І кра дагаворы.



Для рабочых сапагі
Кажуць, ужо маюцца,
А на справе—дзве нагі
Апокай праграваюцца.



Спецрубаха, спецштаны
Стояць нам манету;
Па параграфу—дачы,
А на справе—нету.




На заводзе жызнь ключом,
Прама не нацешыцца:
У часе працы каля касы
Нашы хлопцы чэшуцца.



Бак з вадою ёсць у цэху,
Вочынна абідна,
Ёсць вада ў тым баку,
А кружак не відна.

Не так лёгка граць трохрадцы,
На высокім, на ладу,—
Трэба выжыць непарадкі,
І не ведаць пра бяду.

# Што чытаць



## Новыя кнігі, паступіўшыя ў нашу бібліятэку

### Першамайская літаратура

1. Я. Георгиади. — «Рабочие маевки в царской России».
2. Маяковский. — «Два мая».
3. Мальро. — «Годы презрения».
4. Муссина. — «Запрещенная демонстрация».
5. Сендер. — «Семь красных воскресений».
6. Смедли. — «Рассказы о китайской красной армии».
7. М. Горький. — «Мать».
8. Шенштедт. — «Убит при попытке к бегству».

### Мастацкая літаратура

1. Н. Островский. — «Как закалялась сталь». (2 тома)
2. Л. Леонов. — Дорога на океан».
3. К. Чорны. — «Трэцяе пакаленне».
4. Шилин. — «Ревантулет».
5. Ильина. «Когда она заговорили».
6. Яновский. — «Всадники».
7. Макаренко. — «Педагогическая поэма».
8. Бергельсон. — «У Днепра».
9. Киш — «Гитлер и другие».
10. Гарніч. — «Бацька Божэнка».
11. Галавач. — «Праз гады».
12. Лынькоў. — «Баян».
13. А. Жыд. — «Страницы из дневника».
14. Хемингуей. — «Фиеста».
15. Тарасенко. — «Эпизод».

---

## ЗМЕСТ:




**Выданне парткома і заўкома варштатабудаўнічага завода імя С. М. Кірава (Менск).**

**Менск, друкарня «Звязды» Горліт 853 Тыраж 1000 экз. Адказны рэдактар С. ГУЛІС.**

